




# Беларус

«Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь зьяўляецца беларуская мова».
— *Канстытуцыя РБ, Артыкул 17.*

№433 Сакавік–Красавік 1996г.
Год выд. 45

BIELARUS / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. Price $3.00

## АГЛЯД СЫТУАЦЫІ І НОВЫЯ ЗАДАНЬНІ ЭМІГРАЦЫІ

***(Рэфэрат да 78-х угодкаў Акту 25 Сакавіка)***

Ад часу абвяшчэньня сувэрэнітэту ў 1991 годзе і да сёньня Беларусь як дзяржава застаецца слабой і няўпэўненай у сваёй зьнешняй і ўнутраной палітыцы. Нягледзячы на тое, што гісторыя падаравала нам амаль пяць гадоў на дзяржаўнае станаўленьне, сфармуляваньне нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі існаваньня, нягледзячы нават, што за гэтыя колькі гадоў была прынятая Канстытуцыя, якая абвясьціла Беларусь незалежнай дэмакратычнай прававой нэўтральнай дзяржавай, арыентаванай на рынкавую сыстэму ў эканоміцы, не адбылося галоўнае — не сфармавалася нацыя, якая сьвядома хацела б жыць самастойна і кіравацца новым законам. Дакладней, дзяржаўная нацыя толькі пачала фармавацца. Аднак гэтае фармаваньне не пасьпела ахапіць усе пласты жыхарства, што і выявілася у навязаным Лукашэнкам рэфэрэндуме пра дзяржаўнасьць расейскай мовы, вяртаньне савецкіх сымбаляў і эканамічную арыентацыю на Расею. І тым ня менш, нават ва ўмовах жорсткага ціску, інфармацыйнай блякады і фальсыфікацый з боку прэзыдэнцкіх структур амаль мільён грамадзян Беларусі, што мелі права голасу, прагаласавалі ня проста СУПРАЦЬ старога савецкага, але ЗА новае — за беларускую нацыянальную дзяржаўнасьць, прынятую Канстытуцыю. Гэты мільён і ёсьць пачатак нацыі, якая ўсьведамляе свае мэты і патрэбы, хоць яшчэ і ня можа рэальна паўплываць на ход падзей.

Іншым вельмі важным крокам, што дае Беларусі дадатковы час на сталеньне, сталася абраньне Вярхоўнага Савету — вышэйшага заканадаўчага воргану дзяржавы. Існаваньне Вярхоўнага Савету часткова ўраўнаважвае падзел улады і адцягвае пэрспэктыву перамогі Прэзыдэнцкага кіраваньня. На жаль, растаноўка палітычных сіл не дае шмат выбару. З аднаго боку Прэзыдэнт Аляксандр Лукашэнка, чалавек з фюрэрскімі амбіцыямі, нізкакультурны і цынічны, здольны да правакацый, спрытны ў палітычных гульнях і таленавіты актор у вулічным тэатры, які ўжо пасьпеў стварыць сваю сыстэму вертыкальнай улады. З другога боку, Вярхоўны Савет, у якім найбольш моцныя пазыцыі маюць лаяльныя да Прэзыдэнта аграрыі і толькі тактычна апазыцыйныя да Прэзыдэнта камуністы. Аднак і аграрыі і камуністы — аднадумцы ў супраціўленьні дэмакратызацыі і рынкавым рэформам. Яны з Прэзыдэнтам маюць агульную палітычную філязофію, сфармуляваную Лукашэнкам як: «сацыяльная справядлівасьць, славянскае брацтва — гэта наш выбар, наш шлях.» У выпадку любых выбараў ці рэфэрэндумаў гэтыя сілы, аб'яднаўшы свае галасы пакінуць дэмакратычную нацыянальна-дзяржаўную плынь. Трэцяя галіна ўлады — судовая, фактычна цалкам падкантрольная прэзыдэнцкай вэртыкалі і самастойнае ролі ня мае, за выключэньнем Канстытуцыйнага Суду. Гэтая вышэйшая судовая інстытуцыя бадай што адзіная, але хутчэй маральна-палітычная, чым палітычная апазыцыя гвалтоўным намогам Лукашэнкі ігнараваць Канстытуцыю і ўвесьці прамы Прэзыдэнцкі дыктат праз указы.

Аналізуючы сытуацыю ў Беларусі, мы мусім, на жаль, заўсёды ўлічваць настроі Ўсходу. На наступных прэзыдэнцкіх выбарах у Расеі найбольшыя шанцы на перамогу маюць левыя нацыянал-радыкальныя кандыдаты. У зьнешняй палітыцы гэта звычайна азначае, што незалежна ад эканамічных посьпехаў ці няўдач, большасьць Расейскага патэнцыялу будзе зноў скіраваная на вяртаньне былых сфэраў уплыву, — тых дзяржаваў і тэрыторый, якія Расея лічыць сфэрай сваіх нацыянальных інтарэсаў. Вядома, адная толькі Беларусь без Украіны асаблівай прынадай для Расеі ня ёсьць. Але ўсё-ж цешыць самалюбства, што хоць нехта самохаць кідаецца адчыняць дзьверы і ўтрымліваць стратэгічны тэрытарыяльны калідор. Што да эканамічнай стратнасьці ўтрыманьня Беларускай нерэнтабельнай сельскай гаспадаркі і прамысловасьці, дык узгаданыя расейскія палітычныя колы паняцьцямі эканамічнае мэтазгоднасьці не кіруюцца, калі на кон ідуць палітычна-мэсыянскія амбіцыі супэрдзяржавы.

Міжнародная рэпутацыя Беларусі ўжо цяпер з нэўтральна-ніякай ператтварылася ў нэгатыўную, — Беларусь

(Працяг на 2-й б.)

## ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**Дастойнаму Сьвятарству і ўсім Багалюбным Праваслаўным Вернікам Беларускага Народу**

### ХРЫСТОС УВАСКРОС!

*«Усе вы, што ў Хрыста хрысьціліся, у Хрыста апрануліся» (Гал. 3:27).*

Дарагія й любасныя мае Браты й Сёстры! Хрыстос Уваскрос!

Сёньня мы сьвяткуем перамогу Ісуса Хрыста над сьмерцяй, бо яна дае і ўсім нам веру ў перамогу ўсялякіх цяжкасьцяў, што бываюць у нашым жыцьці. Гаспад кажа: «Я ёсьць уваскрасеньне і жыцьцё» (Ян 11:25).

Уваскрослы Хрыстос дае нам моц прадаўжаць жыць і дае запэўненьне, што сьмерць — гэта ня ўсё. Перад Сваім укрыжаваньнем Госпад хадзіў паміж народам і кніжнікамі, фарысеямі і звычайнымі людзьмі, як Чалавек. Простыя людзі разам з фарысеямі ня раз абкідалі Яго нягоднымі словамі, а сёньня мы бачым сілу славы Ягонае ў Ягоным уваскрэсеньні. Гэта сіла самаісьнаваньня, сіла перамогі, сіла веры. «Гэтая перамога, што перамагла сьвет, — кажа дабравесьнік Ян, — гэта вера наша» (Ян 5:4).

Сёньня, дарагія мае, сьвяткуючы ўваскрасеньне Ісуса Хрыста, умацаваныя ў веры нашай, мы адзначаем падзеі ў нашай сьвятой Беларусі, што закранаюць кожнага з нас, беларусаў. Сёньня, сьвяткуючы ўваскрасеньне Госпада нашага Ісуса Хрыста, мы жывем у часе працэсу ўваскрасеньня нашай Сьвятой Беларусі. І сёньня асабліва трэба мець прад вачыма жыцьцё сьвятых і браць іх за прыклад.

Сьвяты апостал Павал у сваім лісьце да карынцянаў, кажа: «Дык вось, ачысьцеце старую закісь, каб сталі вы новым цестам, бо вы прэсныя, бо Пасха наша Хрыстос, ахвяраваны за нас. А таму будзем сьвяткаваць не са старай закісяй, ня з закісяй зла і подступу, а з праснакамі шчырасьці й праўды» (Кар5:7-8). Гэтым сьвяты апостал кажа нам, каб мы аднавіліся да новага жыцьця ў духу словаў Госпада нашага Ратаўніка Ісуса Хрыста. Бо ж гэта пра нас сказана: «Усе вы, што ў Хрыста хрысьціліся, у Хрыста апрануліся» (Гал. 3:27).

Гэта азначае, што ўсе мы, хто верую, замацаванай хростам, прыняў у сябе, у сваю душу Хрыста, тым самым прынялі Хрыста, як духоўную вопратку, і павінны ўсім сваім жыцьцём выяўляць Хрыста. У гэтай вопратцы мы павінны быць уважлівымі на людзкія недахопы, быць цярплівымі, не дакараць адзін аднаго, але выбачаць адзін аднаму, як і Хрыстос ня толькі выбачаў правіны людзям, але нават пакутаваў за іх. Хрыстос дабравольна прыняў пакуты на крыжы за нашыя грахі, каб потым зьвязць сілу, як Бог, Сваім уваскрасеньнем.

Дарагія мае, сапраўдны хрысьціянін павінен мець у сваёй душы Хрыста, шчыра вераваць у Яго, каб адчуваць разам з апосталам Паўлам, які кажа: «І ўжо ня я жыву, а жыве ўва мне Хрыстос, А што цяпер жыву ў целе, дык жыву верою ў Сына Божага, Які палюбіў мяне і аддаў Сябе за мяне» (Гал. 2:20).

Няхай-жа кожны з нас, зь верою ў поўным пераканаьні непаслабна дзейнічае, каб нашыя высакародныя надзеі споўніліся і каб на Вялікодных багаслужбах уся сьвятая Беларусь з удзячнасьцю Богу славіла ўваскрослага Госпада нашага Ісуса Хрыста сваёй роднай мовай: «Уваскрасеньня дзень, і прасьвяцімся ўрачыстым сьвятам і адзін аднага абдымем. Скажам, браты, і тым, што ненавідзяць нас, выбачым усё дзеля ўваскрасеньня, і гэтак засьпяваем: Хрыстос уваскрос зь мёртвых, сьмярцею сьмерць патаптаў і тым, што ў магілах, жыцьцё падарыў».

Усіх Вас, дарагія Суродзічы, вітаю: ХРЫСТОС УВАСКРОС — САПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

*Вялікдзень, 1996 г.*
*Таронта, Канада*

**Мітрапаліт МІКАЛАЙ**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## АГЛЯД

(Працяг з 1-й б.)

аднабакова, парушаючы свае міжнародныя абавязкі і Канстытуцыю, вуснамі Прэзыдэнта заяўляе пра гатоўнасьць спыніць вывад ядзернай зброі і стратэгічныя войскі Расеі са сваёй тэрыторыі, скасаваць дзяржаўны нэўтралітэт, і пры гэтым кіруецца не сваім інтэрасам, але інтарэсамі суседняй дзяржавы ды палітрукоўскімі амбіцыямі ўласна Лукашэнкі, якому цесна ў дзесяцімільённым саўгасе Беларусь і хочацца ўжо кіраваць, як мінімум, славянска-азіяцкім супэрблёкам. Вуснамі беларускага Прэзыдэнта Расея робіць правакацыйныя закіды Польшчы і Літве пра міжтэрытарыяльны калідор да Калінінградскай вобласьці, наладжвае кантакты з Ірацкім рэжымам, заяўляе пра патрэбу дэнансацыі Белавескіх пагадненьняў, якія сталіся падставай новага палітычнага падзелу Эўропы і фактычнага канца існаваньня усходняга вайсковага блёку. Такое самае палітыканства і інтэлектуальную імпатэнцыю выявіў першы народам абраны Прэзыдэнт і ў сфэры эканамічных пераўтварэньняў. Спыненая прыватызацыя дзяржаўнай маёмасьці, фарсуецца фіскальная сыстэма падаткаў, якая можа стымуляваць толькі карупцыю, спыненыя нават размовы пра структурную пераарыетнацыю мілітарызаванага дзяржаўнага сэктару эканомікі, Прэзыдэнт скасаваў паўнамоцтвы міжбанкаўскай валютнай біржы па вызначэньні курсу беларускага рубля, вядзецца палітыка дыскрэдытацыі незалежнай банкаўскай сыстэмы і спроба яе нацыяналізацыі. Спыняюцца і так мізэрныя міжнародныя інвэстыцыі ў беларускую эканоміку (зараз замежныя інвестыцыі ў Беларусі складаюць прыкладна 17 даляраў на чалавека). Міжнародны валютны фонд, беручы пад увагу ўсе вышэй згаданыя фактары, прыпыніў выдзяленьне Беларусі крэдыту «stand-by». Па ацэнкам некаторых заходніх эканамістаў, з усіх краін Усходняй Эўропы, за выключэньнем разбуранай вайной Босьніі, Беларуская эканоміка перажывае найбольшы дэпрэсыўны стан. Так званае галоўнае палітыка-эканамічнае дасягненьне Лукашэнкі — скасаваньне запазычанасьці Расеі па нафце ў 1 млрд. даляраў ніякай рэальнай палёгкі эканоміцы і людзям ня дасьць, бо, па-першае, скасаваньняў задарма не бывае. У дадзеным выпадку скасаваньне запазычанасьці адбылося на міждзяржаўным узроўні, гэта значыць, што прадпрыемствы ўсё роўна мусяць расплочвацца па пазыках. Да таго ж, Беларусь дарвала Маскве 2,6 мільярды даляраў за ваенныя базы, транзіт і мыты на заходняй мяжы. Па-другое, ад гэтага часу пазыка збанкрутаванай сыстэмы будзе расьці па-новаму, у невядомай прагрэсіі і на ўмовах, дыктаваных Расейскім бокам, які ўжо валодае большай доляй Наваполацкага і Мазырскага нафтаперапрацоўчых комплексаў і транзітнай сыстэмай.

Што ж у гэтай сытуацыі выглядае, як найбольш прыймальнае да выбару і дзеяньня? Мы мусім ацэньваць сытуацыю вельмі цьвяроза. Пакуль што на палітычным полі ў Беларусі найбольш важкай палітычнай працівагай Лукашэнку ёсьць Вярхоўны Савет і Канстытуцыйны суд (апроч, вядома, не прадстаўленых у парляманце прафсаюзных рухаў і БНФ). Пакуль існуе гэты, хоць у шмат чым фармальны і залежны, але ўсё ж такі падзел улады, існуе нейкая альтэрнатыўнасьць дзяржаўнай палітыкі. Перавага любой з гэтых галін улады спыніць нават сёньняшнюю эвалюцыйнасьць развіцьця і прывядзе да палітычнай дыктатуры, якая будзе карміцца продажам зброі, дзяржаўнай маёмасьці, цэласнасьці і незалежнасьці дзяржавы пры ўбостве жыцьцёвага стандарту большай часткі насельніцтва.

Выходзячы з гэткае сытуацыі неабходна актыўна падтрымаць усе тыя палітычныя сілы, якія вызнаюць патрэбу існаваньня ў межах, вызначаных Канстытуцыяй, дзяржаўную незалежнасьць ды замацаваны Канстытуцыяй падзел ўлады.

Беларускія арганізацыі на эміграцыі і Рада БНР мусяць пашырыць спэктр сваіх палітычных стасункаў: трэба наладзіць кантакты з рознымі палітычнымі плынямі і партыямі, іх лідэрамі, прычым і парляманцкімі і тымі, што ня маюць сваіх прадстаўнікоў у Вярхоўным Савеце.

Патрэбна наладзіць прадукцыйны інфармацыйны абмен: са свайго боку мы павінны настойліва і шырака інфармаваць сваіх прадстаўнікоў улады ў Сэнаце і Кангрэсе, а таксама амэрыканскія і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі і камітэты пра парушэньні правоў чалавека ў Беларусі, уціск свабоды слова, друку, веравызнаньня, парушэньні рэжымам Лукашэнкі міжнародных пагадненьняў і г.д. Вельмі важна — утрымаць інфармацыйную мяжу адкрытай, пашырыць палітычныя кантакты, а беларускі эміграцыйны друк больш эфэктыўным.

Прэзыдэнт Лукашэнка, ня маючы ў галаве ніякай яснай стратэгіі будаваньня дзяржавы, але толькі стратэгію умацаваньня сваёй улады, адразу па выверанай мільёнамі ахвяр мэтодзе, пачаў ствараць вобраз ворага. Прычым Лукашэнка так пашырыў гэтае варожае атачэньне, што ў яго трапілі ня толькі БНР і нацыянальна-культурны рух, але і камуністы і дэмакраты і партакраты і ягоныя былыя прыяцелі. Але беларуская нацыянальная ідэя, як найбольш цэласная, распрацаваная і пэрспэктыўная альтэрнатыва, сталася і найбольшым ворагам. Зачыняюцца беларускія школы, адменены новыя падручнікі, скарачаецца выпуск навуковай і мастацкай літаратуры па-беларуску і пра нацыянальныя праблемы, скарачаецца фінансаваньне ўсіх навукова-культурных праграм, што зьвязаныя з нацыянальнай тэматыкай. Беларуская мова выведзеная з ліку экзаменаў, абавязковых пры заканчэньні школы і паступленьні ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. На працягу года былі зачыненыя і перасьледаваныя незалежныя радыё і тэлеканалы, чатыры найбольшыя апазыцыйныя газэты «Имя», «Свабода», «Народная воля», «Белрусская деловая газета», драбнейшыя рэгіянальныя газэты: «Выбар» (Віцебск), «Ратуша» (Магілеў), «Беларускі Ўсход» (Хоцімск-Крычаў), «Голас з Ліды», «Пагоня» (Горадня). Выпуск некаторых зь іх наладжаны за мяжой. Але робяцца перашкоды іх распаўсюджаньня па падпісцы і ў вольным продажы. Затое актыўную прэзыдэнцкую пратэкцыю займелі шавіністычныя прарасейскія панславісцкія арганізацыі накшталт «Славянскага Сабора» і «Белай Русі», русафільскія дзеячы культуры і Патрыярхат Расейскай Праваслаўнай Царквы.

У дачыненьнях з эміграцыяй Прэзыдэнтам таксама вядзецца цынічная гульня. З аднаго боку, кантраляваныя прэзыдэнцкай адміністрацыяй газэты зноў пачалі друкаваць хлусьлівыя прапагандысцкія артыкулы цкаваньня эміграцыйных дзеячоў палітыкі і культуры. Зь іншага боку, урадавыя структуры не саромеюцца зьвяртаюцца да гэтых самых эмігрантаў па грошы на Чарнобыльскія патрэбы, якія бяз ушкасьці можна было-б знайсьці, калі-б Прэзыдэнт абыйшоўся без яшчэ аднаго тэніснага корту. Хачу вам нагадаць, што калі Лукашэнка прыязджаў у Маскву і Нью-Ёрк, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі паведамлялі пра нейкія міфічныя цёплыя сустрэчы Прэзыдэнта з нейкай міфічнай дыяспарай. У Маскве гэтую навасьпечаную дыяспару ўжо прадстаўляе былы сакратар ЦК КПБ Сьлюнькоў, у Нью-Ёрку будзе знойдзена таксама нешта падобнае, — досьвед часоў халоднай вайны яшчэ не забыты. Таму нам трэба быць абачлівымі і цьвёрдымі ў сваіх прыярытэтах, калі даводзіцца кантактаваць з прадстаўнікамі і ворганамі выканаўчай уладай і усякую матар'яльную дапамогу праводзіць праз недзяржаўныя арганізацыі.

Ці ёсьць ва ўсёй гэтай, здавалася б, безвыходнай сытуацыі хоць нязначная падстава да рэальнага аптымізму. Цяжка сказаць! Лукашэнка і ягоныя людзі імкнуцца зладзіць нешта навеняведамае. Бясспрэчна, што Беларусь нешта згубіць.

Беларуска-амэрыканская грамада сьвяткуе 78 угодкі беларускай нацыянальнай дзяржаўнасьці быццам бы ўсё яшчэ ва ўмовах, хоць і не нацыянальнай, але дзяржаўнасьці Беларусі. Хіба што можна суцешыцца тым, што кожны чарговы пэрыяд дзяржаўнасьці доўжыцца долей за папярэдні. Эканамічныя і палітычныя крызісы адыходзяць паступова, але Беларусі яшчэ далёка да выхаду з крызісу. Тым не менш альтэрнатыўныя шляхі развіцьця рэальна існуюць. І нам трэба працаваць на тое, каб большасьць выбаршчыкаў убачыла гэтыя альтэрнатывы і сьвядома за іх змагалася. Тым больш, што выдатны прэзідэнт ўсіх суседніх дзяржаў на відавоку.

Толькі праз ваенны ўціск Прыбалтыку, Украіну, краіны былога сацыялістычнага лягеру можна было б зноў уцягнуць у нейкую палітычна і стратэгічна адзіную дзяржаву. Усе гэтыя нацыі ўжо сфармулявалі свае канцэпцыі дзяржаўна-нацыянальнага будаўніцтва і дабраахвотна ад іх не адыйдуць. Ixныя посьпехі ў рэформах і стабілізацыя, а таксама яўныя прыкметы дэстабілізацыі ў Расеі: прыпыненьне рэформ, вайна ў Чачэніі, рост папулярнасьці партыі камуністаў на чале з магчымым новым Прэзыдэнтам Расеі Зюганавым і лібэральна-дэмакратычнай партыі Жырыноўскага, — гэтыя фактары, вядома, мусяць быць для Беларусі засьцярогай у выбары шляху развіцьця. Мы ўжо цяпер бачым большую, чым тры-пяць гадоў таму кансалідацыю розных дэмакратычных сіл на ідэі захаваньня і ўмацаваньня нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Аб'ектыўна, гэтаму спрыяе і параноідальная палітыка Лукашэнкі. Пакаленьне, выхаванае на стандартах астрожнай свабоды і дабрабыту адыходзіць. А моладзь мусіць рабіць свой сьвядомы выбар.

**Алеся Сёмуха**

## Беларусь — «заручоная і запітая»



*З жыцьця ў Нью-Джэрзі*

## СУСТРЭЧА З ДЭПУТАТАМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У сакавіку сёлета ў Злучаных Штатах пабывалі ў якасьці гасьцей амэрыканскіх урадавых установаў дзьве дэлегацыі (15 асобаў і 12) беларускіх заканадаўцаў і ўрадавых працаўнікоў, а сярод іх 29-гадовы дэпутат Вярхоўнага Савету Павал Знавец, сацыял-дэмакрат. На запросіны беларускае грамады ў штаце Нью-Джэрзі сп. Знавец наведаў 9 сакавіка беларускія асяродкі ў Гайленд-Парку і Саўт-Рывэры. Начаваўшы ў сп-тва Вітаўта і Зоры Кіпеляў, азнаёміўся зь дзейнасьцю Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва.

У Гайленд-Парку, у залі царквы Маці Божай Жыровіцкай, сп. Знавец выступіў з дакладам пра бягучыя падзеі на Беларусі. Яго вітаў ад імя вялікай грамады суродзічаў, што прыбылі на даклад старшыня аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Юрка Азарка. Айцец Васіль сказаў малітву. Др. Вітаўт Кіпель коратка прадставіў дакладчыка, нагадаўшы, што ён быў актыўным удзельнікам Першага зьезду беларусаў сьвету ў 1993 годзе. Кандыдаваў ён у ВС па Столінскай выбарчай акрузе ад Беларускай Сацыялістычнай Грамады і Беларускага Народнага Фронту (якія былі ў блёку) і быў выбраны ў першым туры ў травені месяцы.

Сп. Знавец мае закончаны юрыдычны факультэт БДУ, выкладаў там міжнароднае права. Ён — адзін зь дзеячоў Маладой Грамады, да якое належыць каля пайтары сотні маладых нацыянальна сьведамых інтэлектуалаў, кожны зь якіх ведае дзьве замежныя мовы. Сп. Знавец — добры прамоўца, шчыры патрыёт Бацькаўшчыны. Ён выказаў сваё глыбокае задаваленьне з нагоды сустрэчы, падкрэсьліў важнасьць кантактаў паміж беларусамі, што жывуць на Бацькаўшчыне, і суродзічамі за мяжой.

Гаворачы пра апошнія падзеі ў Беларусі, прамоўна адзначыў (як пра гэта пішуць і шмат якія беларускія газэты) нізкі ўзровень нацыянальнай і палітычнай сьведамасьці беларускага жыхарства і лёгкасьць зь якой імі можна маніпуляваць — тое, што робіць адміністрацыя прэзыдэнта Лукашэнкі, зманапалізаваўшы сродкі масавай інфармацыі. На Беларусі замацоўваецца цяпер культ прэзыдэнта. Эканоміка ў хаатычным стане. Паводле некаторых эканамістаў, заводы да гэтага лета стануць зусім, урад нездольны вывесьці краіну з тупіка. Можа дайсьці да сацыяльнага выбуху. Але малады дэпутат не пэсыміст. Ён верыць у тое, што Беларусь перажыве цяперашні «пэрыяд ачмурэньня», захавае сваю незалежнасьць і даможацца лепшага жыцьця. Дакладчык адказаў на шматлікія пытаньні прысутных.

Сп. Знавец наведаў саўтрывэрскі Беларуска-Амэрыканскі Цэнтар, сустрэўся зь ягонымі кіраўнікамі, агледзеў народны дом, царкву, помнік, атрымаў у падарунак некаторыя выданьні.

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

У нядзелю 17 сакавіка ў саўтрывэрскім Беларуска-Амэрыканскім Цэнтры адчынілася 23-я гадавая мастацкая выстаўка, якія штагоду ладзіць Таварыства Беларуска-Амэрыканскіх Мастакоў. Сёлетняя выстаўка была асабліва багатая ўдзелам мастакоў і ўмельцаў.

Адкрываючы выстаўку, старшыня таварыства мастачка Ірэна Рагалевіч-Дутко, падзякавала ўсім удзельнікам і тым, хто дапамог разьвесіць і расставіць на сталох экспанаты, а таксама наведнікам, якіх прыбыло каля сотні чалавек. Публіка з зацікаўленьнем разглядала абразы, выкананыя рознай тэхнікай, фатаграфіі, тканіны, выцінанкі, кераміку, разьбу па дрэве. Сп-ня Люда Літаровіч дэманстравала мастацтва размалёўваньня пісанак, а спчна Тацьцяна Маркавец, маладая мастачка зь Беларусі — пляценьне саломкай. Была разыграная лятарэя, прыбытак ад якое дапамог пакрыць выдаткі, зьвязаныя з наладжаньнем выстаўкі.

На наступную нядзелю экспанаты выстаўкі ўпрыгожвалі залю, калі ў ёй адбывалася, наладжанае Беларускім Кангрэсавым Камітэтам Амэрыкі, сьвяткаваньне 78-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

**Я.З.**

### *БЕЛАРУСКА-ЛЕТУВІЙСКІЯ СУВЯЗІ*

Летувійскае пасольства ў Менску перабярэцца неўзабаве ў новае, зьначна прасторнейшае памешканьне (па вул. Захарава, 68), у выніку чаго скароцяцца чэргі беларускіх грамадзянаў па візы на падарожжа ў Летуву. У 1995 годзе гэтых візаў было выдадзена 84 тысячы.

* * *

## ЗЬМЕНЫ Ў РАСКЛАДЗЕ ПЕРАДАЧАЎ РАДЫЁСТАНЦЫІ «БЕЛАРУСЬ»

Пачынаючы ад 31 сакавіка, перадачы радыёстанцыі «Беларусь» для суродзічаў, якія жывуць у Паўночнай Амэрыцы і Аўстраліі, будуць гучаць ад 23 гадзіны 30 хвілін да 24 гадзіны паводле грынвіцкага часу на частотах 7250, 12010 і 15180 кілягерцаў.

## ПАДЗЯКА

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе за прысланыя газэтныя выразкі наступным асобам: М. Латушкін, д-р В. Рамук, В. Мельяновіч, Ю. Найдзюк, д-р Р. Жук-Грышкевіч, К. Акула, А. Маркевіч, Я. і І. Сурвіллы, А. Кабяка, А. Сільвановіч, д-р Ю. Кіпель, Л. Брылеўская, А. Міцкевіч, Н. Касмовіч, др. Б. Рагуля, М. Прускі, В. Кажан, Б. Даніловіч, У. Ракуць, Ф. Шэйпак, Я. Ханенка, М. Белямук, Л. Стагановіч, М. Пашкевіч, А. Кіпель, К. Калоша, В. Скарук, К. Дзехцяроў, В. Верабей, Л. Шынклер.

# СУСТРЭЧА Ў БЕЛЫМ ДОМЕ



*На нарадзе з прэзыдэнтам Б. Клінтанам. Сядзіць насупраць прэзыдэнта спня Алэксіс Гэрман, кіраўнік аддзелу сувязі пра Белым Доме; па яе левым баку Антоні Лэйк; і трэйці налева ад прэзыдэнта Расьціслаў Завістовіч. Унізе з левага боку Алеся Кіпель.*



*Размова Алесі Кіпель з прэзыдэнтам*

## ЗАЯВА
**з нагоды чарговай русіфікатарскай акцыі Міністэрства адукацыі**

Нядаўна Міністэрства адукацыі й навукі Рэспублікі Беларусь разаслала па школах нашай краіны чарговы Зборнік нарматыўных дакумэнтаў (№ 12 за 1995 г.). У ім зьмешчаныя «Правілы пераводу, арганізацыі экзаменаў і выпуску вучняў агульнаадукацыйных школ», зацьверджаныя загадам міністра адукацыі № 439 ад 15 лістапада 1995 г.

У артыкуле 27 гэтых «Правілаў», дзе даецца пералік абавязковых выпускных экзаменаў, няма пісьмовага экзамену па беларускай мове, тым часам як пісьмовы экзамен па рускай мове ўводзіцца ў якасьці абавязковага. Мэта гэтага кроку зразумелая: зрабіць неактуальным вывучэньне беларускай мовы ў Беларусі. Такое нававядзеньне з'яўляецца простым парушэньнем Канстытуцыі, законаў аб мовах і адукацыі. Нават калі зыходзіць з дэкляраванай уладамі «роўнасьці» беларускай і рускай моваў, то абавязковым павінны быць і экзамен па беларускай мове.

Новыя «Правілы» міністра В. Стражава яскрава пацьвердзілі рэпутацыю Міністэрства адукацыі як «Міністэрства русіфікацыі».

Няма сэнсу патрабаваць адстаўкі міністра. Такія людзі якраз і патрэбныя сёньняшняй уладзе. Патрэбныя, каб, прыкрываючыся іх хлусьлівымі словамі пра клопат аб беларускай мове, з іх жа дапамогай душыць гэтую мову, нішчыць яе так, як нішчылі далёка не ўсе акупанты.

Нягледзячы на нечуваны разгул русіфікатараў, мы выказваем глыбокае перакананьне, што наша сьвятая, шматпакутная мова зойме годнае месца ў незалежнай Беларусі, а імёны яе далакопаў застануцца ў гісторыі, як засталося ганебнае імя Юды.

**Ніл Гілевіч, народны паэт Беларусі**
**Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі**
**Мікола Ермаловіч, гісторык, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі**
**Уладзімір Конан, доктар філасофіскіх навук**
**Зьміцер Санько, кандыдат біялагічных навук**
**Уладзімір Арлоў, лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча**

Менск, 5 лютага 1996 года

# АДЗНАЧЭНЬНЕ 25 САКАВІКА

## У НЬЮ-БРАНСЬВІКУ, Н.-ДЖ.

Рэзалюцыя сьвяткавальнага сходу на адзначэньне 78-х угодкаў незалежнасьці БНР можа стацца асноваю для прыняцьця Кангрэсам ЗША адпаведнае рэзалэцыі ў сувязі з праектам стварэньня беларуска-расійскага саюзу, абвешчанага прэзыдэнтамі Беларусі і Расеі. Пра гэта сказаў у сваім выступленьні на беларускім сьвяткаваньні ў Нью-Брансьвіку кангрэсмэн Фрэнк Палоўн.

Сьвяткаваньне было наладжанае Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем і Арганізацыяй Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў нядзелю 24 сакавіка. У царкве Божае Маці Жыровіцкае БАПЦ у Гайленд-Парку адбылася ўрачыстая багаслужба. Прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам Генадзя Дубягі. У часе малебну сыцжную варту трымалі вэтэраны Адольф Субота, Мікола Абрамчык і Янка Азарка.

Папаўдні ў залі гатэлю Гаят-Рыджэнсі ў Нью-Брансьвіку адбылася акадэмія, сярод удзельнікаў якое былі госьці: кангрэсмэн Фрэнк Палоўн, прадстаўнікі пасольства Беларусі ў Вашынгтоне, гэнеральнага кансулята Беларусі ў Нью-Ёрку і беларускага прадстаўніцтва пры ААН у Нью-Ёрку.

Урачыстасьць адчыніў і вёў далей старшыня ньюджэрзійскага аддзелу БАЗА сп. Юрка Азарка. Пасьля малітвы, якую сказаў а. Васіль, сп. Віктар Тур прачытаў абвешчаньне губэрнатарам Крысты Ўітман дня 25 сакавіка 1996 г. Днём Незалежнасьці Беларусі ў штаце Нью-Джэрзі.

У сваім уступным слове сп. Ю. Азарка зазначыў, што пакуль на Беларусі ня будзе запраўднай незалежнасьці і свабоды, ідэлы БНР застаюцца актуальнымі. Сп. Юрка Васілеўскі прачытаў прывітаньне ад Беларускага Народнага Фронту. З прывітаньнем ад імя Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі выступіла сп-чна Вера Запруднік, нагадаўшы галоўныя падзеі ў жыцьці Беларусі за прамінулы год.

Старшыня БАЗА сп. Антон Шукелойць у сваёй прамове прыгадаў, што ў Заходняй Беларусі сьвяткаваньні ўгодкаў незалежнасьці праводзіліся ў радасным, бадзёрым ключы, чаму адпавядае і пара году — вясна. Прамоўца адзначыў цягласьць змаганьня за ідэалы свабоды і выказаў пераканьне, што змаганьне гэтае ўкарануецца перамогай.

З прывітаньнямі далей выступалі: ад імя беларусаў Беласточчыны — сп. Юрка Каліна, ад імя Прэзыдыюму Рады БНР — сп. Васіль Русак, ён перадаў таксама прывітаньне ад Першаіерарха БАПЦ Мітрапаліта Мікалая.

Сп. Ю. Азарка прывітаў гасьцей — беларускіх дыпляматаў спсп. Аляксандра Астроўскага, Ігара Губарэвіча з жонкай і Уладзіміра Серпікава, а таксама абвесьціў прывітаньні, атрыманыя ад Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, клііўлендзкага аддзелу БАЗА, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту у Чыкага, Беларускага Каардынацыйнага Камітэту Канады і Згуртаваньня Беларусаў Канады.

З грунтоўным і добра прачытаным беларускамоўным дакладам пра сучасны стан на Беларусі і заданьні беларускай эміграцыі выступіла сп-ня Алеся Сёмуха (гл. асобна ў гэтым нумары газэты). Дакладчыца гаварыла, між іншага, пра патрэбу «абнаўленьня» беларускае эміграцыі, і трэба адзначыць, што присутнасьць на залі ладнае колькасьці нядаўна прыбылых зь Беларусі людзей маладога і сярэднага веру якраз пацьвярджала, што гэткі працэс у пэўнай ступені адбываецца. Бясспрэча, трэба шукаць спосабаў яго прысьпешваць і пашыраць.

Зь цікавым дакладам па-ангельску выступіў сп. Павал Рамана, даўшы сьціслы агляд вехавых падзеяў апошняга стагодзьдзя, у якіх адлюставаўся ход змаганьня беларускага народу за сваю дзяржаўнасьць ды страты, якія пацярпелі беларусы ад камуністычных рэпрэсіяў. Але дух свабоды ў беларускім народзе застаўся непераможаным.

Сп. Аляксандар Сільвановіч, паінфармаваўшы коратка пра вялікую дэманстрацыю, якая адбылася ў Менску таго-ж самага дня, расказаў пра трагічныя вынікі чарнобыльскай аварыі на Беларусі і праграму дапамогі, у якой бярэ ўдзел БАПЦ. Прамоўца заклікаў не паслабляць справы дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

Сп. Ю. Азарка прачытаў рэзалюцыю, якая была аднагалосна прынятая.

З прывітальным словам выступіў сп. Цімох Вострыкаў, суродзіч з Гомелю, які часова знаходзіўся ў ЗША. Ён выказаў жаль, што мала было чуваць беларускае мовы ў выступленьнях і на залі сярод маладых ды перасьцярог перад стратай нацыянальнае тоеснасьці, калі ня будзе пераемнасьці паміж пакаленьнямі. Сп. Вострыкаў таксама нагадаў пра багатую беларускую мінуўшчыну, слаўныя імёны ў гісторыі Беларусі, якія павінны служыць асноваю нацыянальнага ўзгадаваньня, як спосаб стрыманьня асыміляцыі.

Акадэмія закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

У часе абеду, які быў часткаю праграмы, сп. Пётра Скепка выконваў на электранічным інструмэнце беларускія мэлёдыі, песьні.

**Я.З.**

## У КЛІЎЛЕНДЗЕ

Ня гледзячы на тое, што зь Беларусі даходзяць няпрыемныя навіны: беларускасьць усьцяж заціскаецца, дыскрымінуецца, клііўлендзкая беларуская калёнія адзначыла сёлета ўгодкі 25 сакавіка вельмі ўрачыста й масава. Галоўная ўрачыстасьць адзначэньня сакавіковага акту адбывалася ў нядзелю 31



сакавіка на селішчы Полацак, але ўжо і ў суботу адчуваўся ўрачысты настрой: званілі журналісты, каб даведацца, што адбываецца на Беларусі, прыяжджалі госьці, былі рэпэтыцыі.

Адзначэньне сакавіковых урачыстасьцяў пачалося спэцыяльным малебнам, пасьля літургіі, у царкве Божае Маці Жыровіцкае ў Кліўлендзе. У часе службы й малебну ў царкве стаяла ганаровая варта з амэрыканскім і беларускім нацыянальным сьцягамі, а айцец настаяцель Міхась Страпко сказаў добрую казань, падкрэсьліўшы, што мы беларусы ў Амэрыцы не павінны падтрымваць цяперашні не дэмакратычны, расейска-камуністычнага адценку, рэжым на Беларусі.

Урачыстую акадэмію прысьвечанаю Сакавіку на селішчы Полацак адчыніў сп. Янка Ханенка, старшыня клііўлендзкага аддзелу БАЗА. Сп. Ханенка паінфармаваў прысутных аб падзеях апошніх тыдняў на Беларусі, падкрэсьліў, што палітычная дзейнасьць беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў у цяперашнім часе павінна актывізавацца, бо на Беларусі пры ўладзе стаяць антыбеларускія колы, а нашае заданьне, сказаў Янка Ханенка, дамагацца адраджэньня Дэмакратычнае Беларускае Дзяржавы і ў гэтым кірунку мы будзем працаваць. Далей спадар Ханенка прадставіў гасьцей: спадарства Плескачоў з Дэтройту, гасьцей з Канады, ды спадарства Зору і Вітаўта Кіпеляў. Асноўны даклад прысьвечаны Акту 25 Сакавіка прачытаў д-р Вітаўт Кіпель. Дакладчык адзначыў, што на беларускім адраджэнскім шляху былі ўзьлёты і занапады: цяперашні час, бясспрэчна — час глыбокага занападу, аднак, падкрэсьліў дакладчык, панікаваць няма патрэбы. Нацыянальны беларускі, дзяржаўніцкі рух выжыве. Трэба працаваць далей, як мы і працавалі.

Мы павінны інфармаваць амэрыканскіх законадаўцаў, казаў Вітаўт Кіпель, што на Беларусі вачавідкі ўсталяўляецца дыктатура, якая паставіла на мэце вынішчэньне беларускае дзяржаўнасьці і можа пахіснуць палітычную раўнавагу ў Эўропе.

Заключнай часткай сьвяточнае праграмы было выступленьне беларускага хору «Васількі» пад кіраўніцтвам спадарыні Ольгі Лукашэвіч і акампаніямэнт сп-ні Ольгі Дубаневіч. Апрача харавых выступленьняў з прыемнасьцю былі ўспрынятыя аўдыторыяй і салёвыя нумары ды дуэты спадарыняў Любы Сяргеевіч і Ольгі Лукашэвіч. Нагул канцэртавая частка вельмі спадабалася прысутным, аб чым сьведчылі доўгія воплескі. Праграма адзначэньня Дня Незалежнасьці БНР была закончаная адчытаньнем прывітальных тэлеграмаў ад Беларускага Народнага Фронту, Беларускага Кангрэсавага Камітэту, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (аддзелы Нью Ёрк, Каліфорнія, Нью Джэрзі і Галоўная Ўправа) ды беларускіх арганізацыяў Аўстраліі, Канады ды Англіі ды беларускім нацыянальным гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

У часе праграмы прадаваліся кнігі выдавецтва БІНІМу ды праводзілася падпіска на выданьне твораў пісьменніка Юркі Віцьбіча.

**К.П.**

## У РЫЧМАНД ГІЛ, НЬЮ ЁРК

Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью Ёрку адзначала Сакавіковы Акт у нядзелю 31 сакавіка. Раніцай, у царкве Сьвятога Кірылы Тураўскага была адслужаная божая служба, а настаяцель айцец Грэгары сказаў казань з нагоды гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Айцец Грэгары выказаў вельмі чульліва словы спагады Беларускаму Народу ды беларусам за межамі бацькаўшчыны, тым хто нёс ідэю незалежнасьці ў шырокі сьвет. Нажаль, казаў айцец Грэгары, і да сёньня поўнае незалежнасьці беларусы не дамагліся, а наадварот, відны намаганьні прэзыдэнта Лукашэнкі улучыць Беларусь у Расею.

Цяжкое і эканамічнае становішча на Беларусі. Адзіная сёньня надзея, што ў развaленым былым СССР, можна свабодна маліцца Богу, узмацоўваца духова. Беларуская дыяспара павінна дапамагаць бацькаўшчыне, каб Беларусь жыла. Быў адпраўлены спэцыяльны малебен за Беларускі Народ, а ўрачыстасьць у царкве закончылася Мнагалецьцем і нацыянальнай малітвай Магутны Божа.

У часе акадэміі, якая адбывалася ў прыцаркоўнай залі, старшыня Аб'еднаньня сп. К. Мерляк прывітаў гасьцей, зачытаў атрыманыя прывітаньні ды даў слова присутнаму старшыні Галоўнае Управы БАЗА сп. Антону Шукелойцу. Старшынём БАЗА ды іншымі выступаўшымі былі выказаныя словы абурэньня з прычыны надыходзўшага дня падпісаньня ганебнае ўмовы Рэспублікі Беларусь з Расеяй.

**Васіль Шчэцька**

# АДЗНАЧЭНЬНЕ 25 САКАВІКА

## *Урыўкі з дакладу 25 сакавіка ў Саўт-Рывэры*

Рэвалюцыя ў царскай Расеі ў 1917 годзе прывяла да ўлады на Беларусі не працавіка, а нікога й нічога не шануючага зьлыдня-ашуканца. Усё, што гэтая бальшавіцкая рэвалюцыя прынесла, нібыта згінула, а зьлыдзень застаўся. Засталося ягонае бальшавіцкае мысленьне, засталася пагарда да нашае мовы, нашае культуры, да ўсяго нацыянальна беларускага, чалавечага, засталося ашуканства, невуцтва. Гэтыя рысы яскрава выяўляюцца у штодзённых паводзінах кіраўнікоў сёньняшняга кіраўніцтва Беларусі.

Развал савецкае імпэрыі яшчэ не азначаў, што надыйшоў час дэмакратычных перамена, дэмакратычнага падыходу да кіраваньня краінай. Нам у эміграцыі хацелася было верыць у праўдзівасьць абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў 1991 годзе, верыць калі не ў рыдкальныя перамены, дык, ва ўсякім выпадку, беззваротнасьць мінулага у Беларусі. Ды й як было нам ня верыць? Беларуская незалежнасьць была прызнаная ўсімі вялікімі краінамі сьвету, якія-ж, думалася, сваёю прысутнасьцю памогуць утрымаць яе недатыкальнасьць як ад вонкавых, гэтак і ад нутраных ворагаў. А якая была рэчаіснасьць? Напрацягу чатырох гадоў зьлыдзень-ашуканец часам прытойваючыся, а часам і не, рабіў сваю працу. Ён ня толькі не прызнаваў 25-га Сакавіка нашым нацыянальным сьвятам, ён забараняў ушаноўваць яго. Ён забараняў ушанаваньне Слуцкага збройнага чыну і ўсіх іншых нацыянальных падзеяў. Не прызнаўшы нашага дзяржаўнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», зьлыдзень-ашуканец напрацягу чатырох гадоў гаварыў пра напісаньне новага гімну, нібыта больш адпаведнага сучаснасьці, а сам наўмысна марудзіў, быццам разглядаючы новыя варыянты гімну, і так нічога і не зрабіў. Зьняславіўшы наш нацыянальны бел-чырвонабелы сьцяг, ён замяніў яго сваёю бэсэсэраўскаю тканінаю, а на Доме Ўраду ён прадбачліва пакінуў накінуты беларускі савецкі гэрб, часова прыкрыўшы яго нашай нацыянальнай «Пагоняй». Ён нават і ня думаў адкідаць прыгонніцкую сыстэму калгасаў і саўгасаў, а мы, нібы праз сваю палітычную наіўнасьць, пасаблілі былі нашую насьцярожнасьць. У нас, зразумела, на парадку дня было беларускае нацыянальная адраджэньне, якому мы ўсе былі аддаліся як эмацыянальна, гэтак і духова. Мы засяроджвалі ўвагу на адраджэньні беларускае дзяржавы, а паколькі ў суседзяў нашай Бацькаўшчыны спачатку таксама не было парадку, мы недстаткова спыняліся на крытыцы таталітарные сыстэмы, якая, у крышачку зьмененай форме, прадоўжвала сваю працу ў Беларусі. Гэтая сыстэма, не адкінуўшы савецкіх дзяржаўных структураў і прадоўжваючы ўчыняць гвалт над народам, апіралася, аднак, калі не на гатоўнасьць, дык, прынамсі, згоду часткі грамадзтва Беларусі падпарадкавацца гвалту і, нават, садзейнічаць дзяржаўнаму ўціску. У разуменьні гэтае часткі грамадзтва, як і ў разуменьні ўраду Беларусі, пануе ленінская догма, згодна зь якою эканоміка ў жыцьці народу мае перавагу над грамадзкай сьвядомасьцю. Народу-ж урадам прывіваецца пачуцьцё абыякасьці да свае нацыі, хваравітае цягі да патэрналізму і рабскае псыхалёгіі, варожасьць да вольных выбараў у кіруючыя дзяржаўныя структуры. Таму не вызваліўшыся духова, Беларусь не магла стварыць прававых структураў гэтак неабходных для правядзеньня эканамічных рэформаў. Калі чатыры гады таму назад у народзе Беларусі, асабліва сярод моладзі, адчуваўся нацыянальны ўздым, а вера ў дэмакратычны лад нават часам ідэалізавалася, дык цяпер яна пачала пераходзіць у роспач. Вось таму і набіраюць моцы ў Беларусі ліхадзеі мінулага.

Гаворачы пра паводзіны беларускае эміграцыі напрацягу апошніх чатырох гадоў і ўплыў эміграцыі на беларускую сучаснасьць, нельга ня кінуць вокам на працу дэмакратычных партыяў на нашай Бацькаўшчыне, дэмакратычнай апазыцыі мінуламу і цяперашняму беларускім урадам. Робіцца гэта не для таго, каб абвінавчаваць альбо адных альбо другіх за тую бяду, якая нарынулася на нашую Бацькаўшчыну і яе незалежнасьць, асабліва пасьля выбараў прэзыдэнта. Не, здаўна-ж вядома, што абвінавчаньні й зайздрасьць ніколі не былі карысьнымі. Хочацца толькі сказаць, што нашыя будучыя крокі павінны быць больш крытычнымі, бо Беларусь яшчэ доўга не пазбудзецца зьлыдня-ашуканца і што нам ад таго не лягчэй, што ён «уласнае гадоўлі», як трапна заўважыў народны паэт Беларусі Сяргей Грахоўскі. Дык вось, адмаўляючыся ад супрацоўніцтва паміж сабою і ўзносячы на незаслужаную вышыню другарадную палітычную розьніцу, альбо нават чыста асабістыя разыходжаньні, дэмакратычныя партыі ў Беларусі, мне здаецца, ня толькі адыходзілі ад ідэі незалежнасьці, за якую яны змагаліся, але, адважуся сказаць, гаварылі ня ўсю праўду свайму выбаршчыку. Яму, мабыць, было цяжка зразумець кардынальную розьніцу паміж праграмай розных партыяў, бож, шчыра кажучы, ніякае розьніцы ў гэтых праграмах не было. Найгалоўнейшую ідэяй, якая павінна была аб'ядноўваць дэмакратычныя партыі была незалежнасьць Беларусі. Ніякія партыйныя праграмныя нюансы не прывядуць дэмакратычныя партыі Беларусі да ажыцьцяўленьня гэтых нюансаў, калі не ўтрымаецца беларуская дзяржаўнасьць, якая цалкам залежыць ад еднасьці дэмакратычных сілаў, калі беларускі выбаршчык разчараваўшыся ў гэтых сілах, адыйдзе ад іх.

На вялікі жаль, нават і тая, хутчэй ілюзорная чым праўдзівая, беларуская незалежнасьць і дзяржава, створаная чатыры гады таму назад, паступова гіне. Яе «прадаюць і аддаюць у палон» свае беларускія пярэваратні, яна вабіць вока нашага ўсходняга суседа. І сапраўды, мабыць няма дня, каб беларускі прэзыдэнт не гаварыў пра «поўную», «эканамічную», «палітычную» і «цесную» інтэграцыю з Расеяй і каб Расея, негледзячы на тое, што і ў яе таксама няма ані эканамічнага ані палітычнага парадку, не рабіла рэвэрансу ў бок здрадніка беларускае нацыі.

Дык вось што чакае Беларусь. Хочацца, аднак, быць аптымістам. Хочацца верыць, што выбраны народам новы парлямэнт не дапусьціць, каб загінула незалежнасьць, каб зьнікла беларуская дзяржава, а за ёю і беларуская нацыя.

**Расьціслаў Завістовіч**

## САЎТ РЫВЭР, НЬЮ-ДЖЭРЗІ

Адзначэньне Дня Незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі пачалося ў суботу 23 сакавіка. А дзясятай гадзіне ўраніцы мэр гораду, каля дзесятка райцаў места ды значная грамада беларусаў сабраліся перад ратушай для ўрачыстасьці падняцьця беларускага нацыянальнага бел-чырвона-белага сьцягу, які лунаў на гарадзкім флягштоку аж тры дні. Таго ж дня, пасьля падняцьця сьцягу, адбылося прыняцьцё ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры гораду Саўт Рывэр.

У нядзелю, 24 сакавіка ў царкве Сьвятое Эўфрасіньні Полацкае, айцец настаяцель Мячыслаў Брынкевіч па літургіі, адправіў спэцыяльны малебен. Урачыстая, сьвяточная атмасфэра ўзмацнялася беларускамоўным чытаньнем Апосталаў (сп. Мікалай Сіцько), Эвангельля ды цудоўным выкананьнем беларускамоўнага Ойча Наш хорам пад кіраўніцтвам маладой дырыгенткі сп-ні Іны Яўтуховіч.

У часе малебну ў царкве стаяла ганаровая варта з амэрыканскім і беларускім сьцягамі у складзе сп.сп. Міхася Бахара й Міхася Сенькі. Царкоўныя ўрачыстасьці закончыліся патрыятычным казаньню айца Мячыслава ды прасьпяваньнем нацыянальнае малітвы Магутны Божа. Акадэмія прысьвечаная Сакавіковаму Акту адбывалася ў Грамадзскім Цэнтры па абедзе ў нядзелю. Вёў акадэмію Міхась Базар, аднача сказаўшы кароткі рэфэрат аб сакавіковых падзеях у ангельскай мове, а ў мове беларускай даклад быў прачытаны паважаным старшынём Беларускага Кангрэсавага Камітэту, спром Расьціславам Завістовічам з Вашынгтону. Вядучы акадэміі зачытаў гэтаксама праклямацыі мэра гораду і гэбэрнатара штату, спадарыні Крысьціны Ўітман, якія ўшаноўвалі Дзень Беларускае Незалежнасьці, а праклямацыя сп-ні Ўітман абвяшчала Дзень 25 Сакавіка днём Беларусі ў штаце Нью-Джэрзі. Былі таксама атрыманыя й зачытаныя прывітаньні ад Беларускага Народнага Фронту, ад газэты Голас Радзімы, Згуртаваньня Беларусаў у Аўстраліі, Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (ад галоўнае управы ды аддзелаў Нью-Ёрк, Кліўленд).

Мастацкая праграма улучала выступленьні паэтаў Янкі Золака, Міхася Кавыля ды музыкаў-сьпевакоў: Зьмітрака Яўтуховіча, Пятра Скепкі ды Івана Альхоўскага.

Акадэмію ўшанавалі таксама госьці з Вашынгтону, сп. А. Астроўскі, прадстаўнік амбасады Рэспублікі Беларусь, зь Нью-Ёрку прадстаўнікі Беларускае Місіі пры Аб'едналых Нацыях сп. Ігар Губарэвіч з спадарыняй Сьвятланай Губарэвіч ды таксама зь Нью-Ёрку прадстаўнік гэнэральнага консульства Беларусі сп. Уладзімер Серпнікаў.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыяльнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

## БРУКЛІН, НЬЮ ЁРК

17-га сакавіка ўрачыстае адзначэньне 78-е гадавіны Беларускае Народнае Рэспублікі адбылося ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ.

Урачыстасьць распачалася з Малебну за Беларускі Народ, які адслужыў Мітрапаліт Ізяслаў.

Затым, у грамадзкай залі Сабору перад прысутнымі з прынагодным рэфэратам выступіў сп. Барыс Данілюк. У рэфэраце былі зазначаныя найважнейшыя вехі змаганьня нашага народу за незалежнасьць Бацькаўшчыны ды зьвернутая ўвага на малавывучаны аспэкт, а менавіта на намаганьнях беларусаў забясьпечыць сабе выхад да Балтыцкага мора.

Пасьля рэфэрату адбыўся канцэрт, на якім выступілі ведамыя артысты Валянтына Пархоменка й Алесь Казак ды артыстка Рыма Маленчанка.

## «БЕЛАРУСКАЯ ПАЛІТЫЧНАЯ ЭМІГРАЦЫЯ»

Зь ініцыятывы і на запросіны Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Злучаных Штаты Амэрыкі у сярэдзіне сакавіка прыехалі два беларускія навукоўцы і знаныя аўтары, журналісты і грамадзкія працаўнікі сярод беларусаў у Польшчы, сп.сп. Янка Максімюк і Юрка Каліна. Абодвыя прыехалі ў ЗША для зьбіраньня матар'ялаў для запляванавае працы «Беларуская палітычная эміграцыя». Спадары Я. Максімюк і Ю. Каліна зьведваюць беларускія і амэрыканскія архівы, праводзяць гутаркі з беларусамі, піянэрамі паваеннае хвалі эміграцыі ў ЗША, займаюцца пошукамі беларускіх матар'ялаў у амэрыканскіх бібліятэках і арганізацыйных цэнтрах.

4-га красавіка адбылася сустрэча Я. Максімюка і Ю. Каліны з шырэйшым беларускім грамадзтвам у залі царквы Сьв. Маці Жыровіцкае ў Гайленд Парку. Д-р Вітаўт Кіпель, старшыня БІНІМу прадстаўляючы навукоўцаў, падкрэсьліў, што прыбылыя навукоўцы ведамыя ў беларусаведзе як уважлівыя ды ўдумлівыя дасьледнікі беларускае гісторыі, а сп. Янка Максімюк, асабліва зьвярнуў на сябе ўвагу эміграцыі і нацыянальнае інтэлігенцыі на бацькаўшчыне сваёй нядаўняй манаграфіяй аб Беларускай Гімназіі імя Я. Купалы ў Зах. Нямеччыне. Перад гэтымі дасьледнікамі цяпер накрэсьлены працоўны плян —напісаць гісторыю беларускае палітычнае эміграцыі. БІНІМ, як і іншыя беларускія ўстановы й арганізацыі будуць старацца ў зьдзейсьненьні гэтае задумы дапамагаць. Далей адбылася вымена думак і паглядаў на мэтадалёгію працы, хранялагічны ахоп эміграцыі ды праблемы ў вывучэньні эміграцыі.

На заканчэньне сустрэчы, якая прайшла ў прыязнай працоўнай атмасфэры, як сп.сп. Янка Максімюк і Юры Каліна прасілі аўдыторыю дапамагчы ім ў ідэнтыфікацыі архіваў, індывідуальных біяграфіяў, фатаграфіяў ды наагул матар'ялаў зь гісторыі й дзейнасьці беларускае палітычнае эміграцыі.

Д-р Кіпель таксама выказаў шчырую падзяку спадарыні Галіне Русак — арганізатару сустрэчы.

# БЕЛАРУСЬ ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ПАСЬЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ



*А. Сільвановіч (зьлева) у Менску.*

- Захворваньні на рака шчытавіднай залозы сярод дзяцей на Беларусі павялічыліся на 285 працэнтаў.
- Нараджальнасьць на Беларусі зьнізілася на 50 працэнтаў.
- Радыяцыя ня толькі спрычыняе захворваньні ракам, яна паніжае імунітэт, паслабляючы адпорнасьць арганізму на хваробы.
- Мільёны беларусаў яшчэ ўсё жывуць у раёнах высокай радыяцыі, якою пакрытыя 30 працэнтаў тэрыторыі краіны.
- Больш за 20 працэнтаў гадавога бюджэту дзяржавы ідзе на выдаткі, зьвязаныя з чарнобыльскай аварыяй.
- Паводле апошніх падлікаў, шкода, нанесеная чарнобыльскай катастрофай, будзе каштаваць рэспубліцы ў пэрыядзе 1986-2015 гадоў 235 мільярдаў даляраў.

Вось суровая статыстыка дзесяць гадоў пасьля чарнобыльскай бяды, што напаткала Беларусь 26 красавіка 1986 году. А яшчэ горш тое, што гэтыя лікі мяняюцца, і мяняюцца у горшы бок. Прыкладам, спэцыялісты аховы здароўя прадказваюць, што яшчэ каля 20 тысячаў дзяцей захварэюць на рака ў недалёкай будучыні. Апрача гэтага, тысячы дзяцей і дарослых памруць раней свайго часу дзеля нястачы патрэбных лекаў і вітамінаў. Асабліва не стае антыбіётыкаў. Стан здароўя насельніцтва будзе пагаршацца таксама ў выніку далейшага эканамічнага спаду. Назіраюцца выразныя адзнакі таго, што дапамога з-за мяжы рэзка зьмяншаецца. Коратка кажучы, пацыент хворы і шанцы на папраўу слабыя. Некаторыя экспэрты наагул ставяць пытаньне, ці выжыве Беларусь як нацыя, ці перажывае найцяжэйшую за ўсе часы прамысловую аварыю — аварыю, што выкінула радыяцыі ў 30-40 разоў больш, чым атамныя бомбы, скінутыя на Гірасіму і Нагасакі.

Сёлета дзейнасьць, зьвязаная з чарнобыльскай дапамогай, узмоцненая ў сувязі зь дзесятымі ўгодкамі аварыі. І гэтааднаўляе ўвагу, як і павінна быць, да пакутаў тых, хто пацярпеў.

Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква (БАПЦ) праз свой Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, узначальваны Мітрапалітам Мікалаем (Васіль Русак — сакратар, Аляксандар Сільвановіч — скарбнік/каардынатар), брала ўдзел у завозе на Беларусь (тры грузы, усяго разам восем 40-футовых кантэйнэраў агульнай вартасьцю, прыблізна, шэсьць мільёнаў даляраў) мэдыкамэнтаў, мэдычных прыладаў, харчоў і цацак для хворых дзяцей. Кожны раз прадстаўнік(і) БАПЦ суправаджалі груз і дапамагалі ў разьмеркаваньні яго шпіталям, дзіцячым дамам і прытулкам. Хоць фінансавыя магчымасьці БАПЦ вельмі сьціплыя, шчодрая падтрымка з боку прыхаджанаў і прыяцеляў, асабліва ад Кліўлендзкае парафіі імя Маці Божай Жыровіцкай, умажлівіла значную дапамогу ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

Сёлета на 10-я ўгодкі чарнобыльскай аварыі мы ізноў хочам падкрэсьліць значэньне дапамогі і нашу пранятасьць справаю дабрабыту братоў і сясьцёр на Беларусі. Мы ізноў бярэм удзел, супольна зь Дзіцячым Чарнобыльскім Фондам Рамапаўскае Сярэдняе Школы, у завозе на Беларусь вялікага грузу (тры 40-футавыя кантэйнэры вартасьцю, прыблізна, 4,5 мільёны даляраў, у тым ліку на 1,5 мільёны даляраў антыбіётыкаў) мэдыкамэнтаў і мэдычных прыладаў. Двое прадстаўнікоў БАПЦ разам з 24 вучнямі і 6 настаўнікамі Рамапаўскай СШ паедуць у Беларусь, каб узяць удзел у размеркаваньні грузу. Рамапаўскія школьнікі раздадуць таксама хворым дзеткам цацкі і выступяць з паўгадзіннай канцэртнай праграмай, загалоўленай "Памятныя 1950-я гады — рок-эн-рол", якую пакажуць у 10 шпіталях. Школьнікі выканаюць таксама дзьве песьні па-беларуску.

У мінулым шмат хто зь лекароў, санітарак і бацькоў хворых дзяцей казалі нам, што Беларусь дастае дапамогу з многіх краін ды што яны вельмі ўдзячныя за ўсю гэтую ўвагу і дапамогу. Але дапамога мае асаблівую вартасьць, калі ідзе ад замежных суродзічаў. Людзі на Бацькаўшчыне кажуць, што мы ім даём шмат больш, чымся мэдыкамэнты, якія лечаць цела, але й нешта, чаго мэдыкамэнтамі не дасягнеш — лек для душы. Калі чуеш такія словы, дык думаеш, што гэта — найлепшае супрацьдзеяньне патоку прапаганды нянавісьці, якою зь некаторых тэлевізійных каналаў кормяць беларускае жыхарства.

Калі Вы хочаце яшчэ раз далучыцца да справы дапамогі ахвярам Чарнобылю ў Беларусі, Вы можаце пасла́ць ахвяраваньні (вызваленая ад падаткаў) на адрас:

BOAC FUND FOR
CHERNOBYL VICTIMS,
9 River Road, Highland Park, NJ 08904

*Памятайце, што Ваше ахвяраваньне прынясе больш, чым мэдыкамэнт, які лечыць цела, яно панясе з сабой нешта вялікае — тое, што лечыць душу!*

**А. Сільвановіч**


## КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ
## ПАМЯЦІ ПАКУТНІКАЎ БЕЛАРУСІ
### 1-га чэрвеня, у суботу, 1996 году

*СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ!*

Стараньнем беларусаў Канады, ЗША, Эўропы й Аўстраліі, у 1995 годзе ў Прошчы паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў, што ў Мідлянд, Канадзе,побач

**Беларускага памятнага Крыжа**
была ўзьнесеная мэмарыяльная дошка
**Памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі.**

Урачыстасьці асьвячэньня Мэмарыяльнай дошкі адбудуцца **1-га чэрвеня**, у суботу, пачатак а **10**-ай гадзіне зраніцы

Прыйдзем засьведчыць наш пратэст супраць генацыду Беларускага Народу накананага над ім камуністычным тэрорам.

***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!***

*За Арганізацыйны Камітэт*
**Др. Раіса Жук-Грышкевіч, Старшыня**

Беры, 14 сакавіка, 1996 г.


## У ФРАНЦЫІ РАСЬЦЕ ЗАЦІКАЎЛЕНЬНЕ БЕЛАРУСЬСЬЮ

«Беларус» атрымаў цікавую карэспандэнцыю з Францыі ад сп. М. Наўмовіча, дае ён між іншымі кранае пытаньне росту зацікаўленьня беларускім пытаньнем ды Беларусяй сярод францускай акадэмічнай моладзі. Тут коратка пазнаёмім нашых чытачоў з атрыманай інфармацыяй.

18-га студзеня г.г. адбылася канфэрэнцыя пра Беларусь у Клюбе Эксплёратараў у Парыжы. Малады француз Ян Рышард, які мае навуковую ступень у геаграфіі з Унівэрсытэту Сарбоны ў Парыжы, прачытаў лекцыю «Як Беларусь гартае савецкія бачыны». Сп. Рышард ілюстраваў лекцыю здымкамі з Беларусі. Ён зьведаў на аўтамашыне вялікую частку краіны ды падзяліўся з прысутнымі сваімі ўражаньнямі. Гаворачы пра Горадню ды заходную частку Беларусі, дакладчык сьцьвердзіў, што сьляды польскай акупацыі да 1939-га году ды палітыкі асыміляцыі праз палянізацыю ёсьць відавочныя й сяньня. Сп. Рышард таксама заўважыў, што на ўсходзе Беларусі выдавочныя наслeдкі абяднедай калгасный і саўгаснай гаспадаркаў. У будаўніцтве пераважае цяжкая імпазантная архітэктура — так розная ад заходня-эўрапэйскай архітэктуры.

Сёньня ў Францыі беларускай тэматыкай, асабліва глыбока, цікавяцца тры асобы: Ян Рышард працуе над сваім дактаратам з галоўнымі тэмамі геаграфія Беларусі й беларуская мова. Дзьве маладыя студэнткі, часткова беларускага паходжаньня, выбралі таксама дакторскія тэмы зьвязаныя зь Беларусьсю.

Аляксандра Гоён радзілася ў Францыі. Дзед яе — беларус, якога вайна закінула ў Францыю. Ён перадаў сваёй унучцы глыбокую любоў да Беларусі. Аляксандра езьдзіла некалькі разоў у Беларусь ды палюбіла гэтую краіну й яе народ. У мінулым годзе яна была ў Іркуцку на Сібіры ды найшла там шэраг мясьцін зь вялікай колькасьцю беларусаў, вывезеных туды савецкай уладай. Цяпер яна канчае навуку на Факультэце Палітычных Навук у Парыжы ды выбрала тэмай свае дысэртацыі «Фармаваньне Палітычнай Апазыцыі ў Беларусі: БНФ у гадох 1988-1991».

Вірджынія Шыманец, унучка ведамага беларускага дзеяча Ўладзімера Шыманца, узгадаваная ў моцным беларускім патрыятычным духу, выбрала тэмай сваёй дакторскай працы ролю беларускага тэатру ў нацыянальным адраджэньні Беларусі. Вірджынія атрымала двухгадовую дзяржаўную стыпэндыю для гэтай працы.

* * *

## ПРА ЧАРНОБЫЛЬ...

Адзначаючы дзесятыя ўгодкі Чарнобыльскае трагедыі, патрэбна таксама адзначыць, што пра Чарнобыль выйшлі дзесяткі кніжак у розных мовах ды з розных бакоў насьвятляюць гэтае жудаснае у гісторыі чалавецтва здарэньне. Адна з такіх кніжак напісаная й выдрукаваная ў Злучаных Штатах, прысьвечаная дзяцям Чарнобылю, з уступам былое алімпійскае чэмпіёнкі, ведаме беларускае спартсмэнкі, Вольгі Корбут. Радзім нашым чытачом прачытаць гэтую кнігу.

Кнігу можна замовіць у:
Michelle Carter
609 W. 39th Ave.
San Mateo, CA 94403

# АГЛЯД КНІГАЎ

***Максім Гарэцкі. Творы. (Мінск, 1995). Рэдактар М. Мушынскі. Укладанне з тэксталагічнай падрыхтоўкай Т. Голуб. Прадмова М. Конькі.*** Кніга выдадзена ў заснаванай у 1990 годзе сэрыі «Бібліятэка беларускай клясікі». Новае выданьне пісьменьніка, творы якога, нягледзячы на чатырохтамовік ды два дадатковыя тамы, не залёжваюцца ў кнігарнях, заклікана «пазнаёміць з найбольш значнымі творамі пісьменьніка, у першую чаргу з тымі, шлях якіх да чытача быў найбольш доўгі і складаны», прынамсі, гэтак гаворыцца ў традыцыйна-дзяжурнай прадмове. Праўда, не заўсёды творы, шлях якіх быў да савецкага чытача даўгім, зьяўляюцца і найбольш значнымі. Уключана, напрыклад, добра вядомая аповесьць «На імперыялістычнай вайне» — і творы, без якіх абыйшоўся Збор твораў: «Лірныя сьпевы», «Фантазія», «Апостал». І калі можна растлумачыць адсутнасьць іншага твору, «Дзьве душы», што, праўда, ці не найлепш падыходзіў да задач тома, са зьдзіўленьнем шукаеш і не знаходзіш «Скарбы жыцьця» і «Кіпарысы», друкаваныя некалі у «Полымі», і якія (буду рады памыліцца) ня выходзілі пакуль што кнігай. (Зрэшты, наша эміграцыя ўжо мела вопыт выданьня «Трэцяга тому» М. Гарэцкага). У кнізе — добра вядомыя «У чым яго крыўда?», «Меланхолія», «Ціхая плынь», а па сьведчаньні людзей, якія працавалі з архівам Гарэцкага ў Менску, там перахоўваюцца наагул недрукаваныя творы. Пэўна, яны яшчэ на шляху. Да станоўчага боку кнігі варта залічыць невялікі слоўнічак напрыканцы кнігі (праўда, без аўтарства) — «тлумачэньне некаторых слоў у творах М. Гарэцкага»; такія слоўнікі пісьменьнікаў становяцца вартай традыцыяй (узгадаем том Лукаша Калюгі).

***Фёдар Янкоўскі. Радасць і боль. (Мінск, 1995).*** З інстытуцкіх часоў, калі хадзіў на заняткі да Фёдара Міхайлавіча, прызвычаіўся набываць ягоныя кнігі — як працяг лекцый па гістарычнай граматыцы, як добрую літаратуру, як выдатную мову. Новая кніга — па-сутнасьці, выбранае. Вось толькі рэдактар, як гаспадар кнігі, замяніў назву, якую прапанавала ўкладальніца, ўдава Серафіма Андрэеўна, «Запаветнае», нягледзячы на тое, што пад такім назовам ужо выходзіла адна з кніг Ф. Янкоўскага. А ў тым часе, як кніга працягвае несьці радасьць беларускай мовы, былыя вучні Ф. Янкоўскага з Брэсчыны пішуць, што на экзамены і лекцыі да выкладчыкаў унівэрсытэтаў ходзяць кантраляваць настаўнікі школ ды інжынеры з аэрапорту па запланаванай лукашэнкаўцамі праверцы. Правяраць не абы каго — філалягічны факультэт, беларускае адзьдзяленьне. Які боль...

***А часу больш, чым вечнасць. Літаратура беларускага замежжа. Мінск, 1995.*** В 1955 годзе ў Мюнхэне быў выдадзены альманах «Ля чужых берагоў», які ўпершыню і, як потым выявілася, апошні раз на 230 старонках сабраў творы шэрагу беларускіх эміграцыйных паэтаў і празаікаў пад аднай вокладкай. І хоць у саміх удзельнікаў альманах выклікаў розныя эмоцыі (ад зразумелага гонару да незадавальненьня як назовам, мастацкім афармленьнем, гэтак і зьместам) для нашчадкаў, удзячных і ня вельмі, ён стаў першай крыніцай знаёмства з літаратурай замежжа. Праз 40 гадоў пісьменьнікаў рэпрэзэнтуе новы альманах. Трэба сказаць, гэта ўжо другая ластаўка: першай сталася «Туга па Радзіме» у 1992 годзе. Пашыранае й перапрацаванае выданьне «Ля чужых берагоў» узору 1995 года, са зьмененым правапісам, ствараe ўражаньне, што з таго часу ня было выдадзена аніякіх кніг — ні саміх пісьменьнікаў, ні кніг, артыкулаў пра іх. Зрэшты, пачнем з пачатку — з назову. «Чаму «Ля чужых берагоў»? Хіба чужыя для нас, беларускіх палітычных эмігрантаў берагі ЗША, якія сымбалізуе сабой Статуя Волі — падарунак Дзядзькі Сэму ад Марыяны ў фрыгійскім каўпаку? Няўжо чужыя для нас Нотр-Дам і Луўр? Хіба не расчуляць запраўднага беларуса Вэстмінстэрскае Абацтва, Брытанскі Музэй, у якім пабачыць Біблію Скарыны? А можа чужы для нас Адвечны Горад з крушнямі Калізэю? Мы арганічна не можам ня любіць сваю родную Сьвятую Сафію, але разам з тым мы паважаем, любім і Айя-Сафію ў Стамбуле і сабор Сьвятога Пётры ў Ватыкане. А хіба чужыя для нас Джордж Ноэл Гардон Байран і Ісаак Ньютон, Онорэ дэ Бальзак і Эжэн Дэлякруа, Імануіл Кант і Людвіг ван Бэтховэн? Яны з'яўляюцца агульначалавецкім, а значыцца й нашым беларускім здабыткам ды гонарам. Няма нічога больш шкоднага, як самаізаляваны ад чалавецтва ўвогуле, а ў сувязі з гэтым абмежаваны, падсьлепаваты патрыятызм» — гэтак пісаў ва «ўнутранай» рэцэнзіі Юрка Віцьбіч А. Каханоўскаму (ліст на шасьці старонках, урыўкі зь якога цытуюцца, быў напісаны 23.06.56 і захоўваецца ў архіве пісьменьніка ў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага). Дык чаму «А часу больш, чым вечнасьць»? Гэта-ж ня проста радок зь вершу Масея Сяднёва, гэта — назоў *ягонага* зборніка, выдадзенага ў 1989 годзе.

«Цяпер аб супрацоўніках, фігурантах, як і аб тых, каго альманах зьігнараваў. Найбольш красамоўнай у гэтай галіне зьяўляецца простая матэматыка. Калі Натальля Арсеньнева займае 17% плошчы альманаху, дык кажны іншы аўтар, улучаючы сюды й прадмову, па 5%, а гэтак узьняты ў тэй-жа прадмове Юрка Віцьбіч аж бяз малага 3%. Адсутнічае раўнавага паміж паэзыяй (74% усяе плошчы) і прозай (26%), калі пад апошняй яшчэ разумець зацемку ад выдавецтва й прадмову», — працягвае Юрка Віцьбіч пра альманах-55. І далей: «Дзе Сяргей Хмара? Можна ўсяляк ставіцца да яго, як да палітыка, але замоўчваньне яго як паэты з'яўляецца проста недарэчнасьцю. Надзвычай паказальна, што ўсялякі бяз вылучэньня акупант Беларусі (паляк, немец, расеяц) саджаў Сяргея Хмару за краты, а таму ён больш за іншых мае права пісаць: Усьцяж Беларусь! / Беларусь на губах, / У сэрцы-ж — чорная здрада!.. Чаму адсутнічае таленавіты паэта Янка Юхнавец і ня менш таленавіты празаік Я. Юхневіч?... Дзе Мікола Вярба — аўтар гэткіх вузорных вершаў, як «Паміж пахучых руж», «Сьвятым-Сьвяты», «Дождж» г.д.? Прыгадваецца канчатак «Дажджу»: Прагавіта вогкасьць піла поле ў грудзі / Ля абразоў шапталі нешта людзі, / А дождж ішоў і біў у стрэхі глуха. Мяне асабіста гэтыя глыбока паэтычныя радкі проста ўзрушылі. Дзе добры празаік Уладзімер Сядура? Дзе Янка Ліманоўскі — на гэты раз як аўтар цікавае працы пра Янку Купалу? ... Не забаронена таксама нікому па свойму заглядацца на творчасьць Ю. Жывіцы й С. Жамойды, але адно не падлягае сумлеву, што іхнія творы з мастацкага боку ня ніжэйшыя за творы, напрыклад, Шынклера, Бужана, Абакшонка, якія на Бацькаўшчыне друкаваліся ў часапісах. У дадатак аповесьць Ю. Жывіцы «Пушча шуміць» па мастацку асьвятляе змаганьне нашага народу з польскімі наезьнікамі. Дзе Янка Золак? Дзе Кавалеўскі, Вольны, Змагар, Саковіч, Шакун, Грэскі й г.д.? Пэйне-ж бракуе такту падыйсьці да больш ці менш маладога аўтара, як роўны да роўнага, не абражаючы пры гэтым ягонага чалавецкага »я«. І гэтак далей, і гэтак далей». Так пісаў Юрка Віцьбіч у сваім «Фрынасе» амаль сорак год таму. У кнізе «А часу больш...» можна знайсьці імёны Юхнаўца, Сядуры, Саковіч, Золака. Але дзе астатнія? Зьніклі Бірыч (А. Адамовіч), Пётра Сыч, ня трапілі, акрамя пералічаных Віцьбічам, А. Галіна, Л. Гай, Ніна Змагарка. Складваецца ўражаньне, што толькі распачаўшы знаёмства з замежнай беларускай літаратурай, выпрацоўваецца нейкі адмысловы ранжыр: ты першы, па таленту й па зробленаму, ты толькі другі, ты займаеш пачэснае трэцяе... І гэтак далей, і гэтак далей. Зноў большую частку займаюць вершы Н. Арсеньневай, М. Сяднёва, А. Салаўя, значна меншую — той самы У. Дудзіцкі, Я. Юхнавец. Н. Арсеньнева стала вядома на Беларусі ці ня першай з пісьменьнікаў эміграньтаў, і на сёньня натуральна было-б мець Арсеньневай ня колькі старонак у альманасе, а асобную кнігу яе паэзіі й перакладаў. Альманах, як выглядае ў 1995 у параўнаньні з 1955, мусіць быць або мейсцам для клясычных твораў, узорных тэкстаў (зборнік, як куфар сусьветнага архіву), або пляцоўкай для знаёмства. Толькі ці магчыма тое на Беларусі часоў Лукашэнкі? **Л.Ю.**

---

*Вітаем нашага пісьменьніка*
**Кастуся Акулу** з атрыманьнем літаратурнай прэміі імя **Францішка Багушэвіча**, прысуджанай яму Беларускім ПЭН Клюбам за кнігу ***«Змагарныя Дарогі»***.
Жадаем пісьменьніку добрага здароў'я и далейшых творчых асягненьняў на карысьць нашае беларускае вызвольнае справы.
*Шчасьці Божа! Жыве Беларусь!*

**Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады**

---

## ДА ГІСТОРЫІ ВЫДАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКІХ МАРАК НА ЭМІГРАЦЫІ

У рэдакцыю Беларуса прыйшоў ліст з гэткай інфармацыяй: Згуртаваньне Беларускіх Скаўтаў на Чужыне



(ЗБСЧ) выдала прыблізна ў 1947-48 гадох сэрыю марак вартасьцю 2 ням. маркі, 1 марка і 50 пфэнігаў, якія ўжываліся скаўтамі у лягернай пошце і для аплаты сяброўскіх складак. Калі нехта ведае, хто маляваў гэтыя маркі і у якіх лягерох яны хадзілі, просім паведаміць на адрас Беларуса.

Вышэй гэтыя скаўцкія маркі рэпрадукаваныя.

## «АДЗІН ПРАЙШОЎ І СЬЛЕД ПАКІНУЎ, ДРУГІ ПРАЙШОЎ І НАСЬЛЯДЗІЎ»

З друку на Бацькаўшчыне даведваемся, што пад дахам Нацыянальнага навукова-асьветнага цэнтру імя Скарыны ствараецца энцыклапедычны даведнік «Беларусы ў сьвеце», а крыху раней чулі пра складаньне энцыклапедыі «Беларуская эміграцыя». Натуральна, гледзячы на сёньняшнія падзеі на Беларусі, цяжка спадзявацца на хуткае выданьне бясспрэчна карысных кніг. Але: паміраць зьбірайся, а жыта сей. Каб потым не наракаць, што нехта на Бацькаўшчыне, праз ляноту ці няведаньне, памыліўся ў годзе сьмерці ці верывызнаньні, не назваў нечага істотнага, ці нават не падалі імя наагул, чаму ж кожнаму не падумаць пра сабе, сваякоў, якія жывуць ці ўжо адыйшлі, і напісаць колькі радкоў?! Мяркую, пра кожнага ёсьць што сказаць, а нашая эміграцыя не такая вялікая, каб кідацца людзьмі. Багата што забываецца, як, да прыкладу, забыліся на сапраўднае прозьвішча Гарыгляду ці Сьвітазянкі.

Газэта-б час ад часу на сваіх старонках зьмяшчала такі матэрыял — як старонкі будучага даведніка. Пісаць могуць усе (дзе вы бачылі непісьменнага беларуса!), нават тыя, хто раней адно чытаў.

**Л.Ю.**

## НОВЫЯ ДРУКІ БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

Выходзіць з друку 22 кніга Запісаў БІНІМу, якая прысьвечаная Васілю Быкаву.

У кнізе пераважна літаратурны матар'ял улучна із упяршыню друкаваным перакладам Натальлі Арсеньневай ***«ПЕСЬНІ ПРА ЗУБРА»***

* * *

Зварачаемся да Вас з просьбай фінансавай дапамогі для выданьня кнігі выдатнага беларускага пісьменьніка Юркі Віцьбіча.

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва падрыхтаваў да выданьня, пад рэдакцыяй сп. Лявона Юрэвіча, першы том працаў Юркі Віцьбіча

***«Антыбальшавіцкія паўстаньні і барацьба на Беларусі»***

Важнасьць гэтае працы Вы, бязумоўна, добра разумееце, бо да гэтага часу беларуская гісторыяграфія і літаратура яшчэ недастаткова ўдакумэнтавала антыбальшавіцкую барацьбу ў Беларусі і праца Юркі Віцьбіча ёсьць пад гэтым паглядам піянэрскай.

Выдаць гэту кнігу — абавязак беларускай эміграцыі. Любая пасільная дапамога на гэтае выданьне, будзе прынятая зь вялікай падзякай; падпіска на кнігу $25.00

## Беларускі Агляд

Выйшаў з друку чародны (веснавы) нумар квартальніка. У часапісе артыкулы беларускіх і не беларускіх дасьледнікаў сучаснае Беларусі, багатая хроніка, статыстыка. Абавязак нашага грамадзтва распаўсюджваць гэты адзіны ангеламоўны, беларускага зьместу часапіс, як шырэй.

**Падпіска і ахвяраваньні на выданьне кнігі Юркі Віцьбіча:«Антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі»**

| | |
|---|---|
| Ф. і В. Бартуль | ам. д. 500 |
| Др. М. Смаршчок | 200 |
| Др. У. Набагез | 200 |
| Ананімны ахвярадаўца (праз М. Латушкіна) | 300 |
| В. і З. Кіпель | 100 |
| Н. і В. Сьнежка | 100 |
| М. Латушкін | 100 |
| Н. Жызьнеўскі | 100 |
| Я. і К. Вініцкія | 100 |
| І. Казак | 100 |
| Жаночае Згуртаваньне ў Сайт Рывэры (праз Люду Махнюк) | 165 |
| А. Тэлеш | 75 |
| Р. Завістовіч | 60 |
| А. Шукелойц | 50 |
| А. Субота | 50 |
| П. Нягода | 50 |
| В. Шчэцька | 50 |
| Ц. Іванко (праз В. Яцэвіч) | 50 |
| У. Ракуць | 50 |
| Ф. Сак | 50 |
| А. Монід | 50 |
| К. Грынкевіч | 50 |
| П. Алексы | 40 |
| В. Яцэвіч | 40 |
| У. Сітнік | 30 |
| П. Нядзьвецкі | 20 |
| Ю. Найдзюк | 20 |
| У. Машанскі | 10 |
| Л. Маркоўская | 10 |

**Ахвяравалі на дзейнасьць Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**

| | |
|---|---|
| А. Рамана | ам. дал. 1000 |
| В. і З. Кіпель | 1000 |

## Фінансы газэты «Беларус»

**Ліста падпішчыкаў і ахвярадаўцаў з Аўстраліі, прысланая сп. М. Лужынскім**

| | |
|---|---|
| М. Лужынскі (выдаткі за пошту) | ам. дал. 117 |
| С. Нарушэвіч | 100 |
| М. Мілеўскі | 100 |
| В. Русак | 100 |
| Л. Парэцкі | 60 |
| С. Яраховіч | 60 |
| М. Антух | 60 |
| А. Бакуновіч | 60 |
| М. Бакуновіч | 60 |
| В. Ліпскі | 60 |
| А. Хаванская | 60 |
| У. Радзевіч | 60 |
| М. Ляўдор | 60 |
| В. Элькановіч | 60 |
| М. Лужынскі (Заміж вянка на магілу Я. Міхалюка) | 100 |
| М. Лужынскі (на магілу В. Раецкай) | 100 |

**Фінансавая справаздача за сакавік 1996**

| | |
|---|---|
| А. Тэлеш | 70 |
| Я. Завістовіч | 40 |
| Н. Орса | 35 |
| Валянціна Пашкевіч | 35 |
| Віктар Пашкевіч | 30 |
| К. Вініцкі (у дар Сакавіка) | 25 |

**На выдавецкі фонд «Беларуса» сабрана на акадэміі, прысьвечанай Акту 25 Сакавіка, у Нью Брансьвіку**

| | |
|---|---|
| Др. У. Набагез | ам. дал. 100 |
| Беларускі Грамадзкі Цэнтр у Кліўлендзе | 50 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| Я. Каханоўская | 40 |
| Л. Норык | 30 |
| Л. Стагановіч | 25 |
| А. Шукелойц | 20 |
| А. і Н. Сільвановіч | 20 |
| А. Непейн | 20 |
| А. Субота | 20 |
| Т. і Д. Кольба | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| В. Яфрэменка | 20 |
| А. Сагановіч | 20 |
| М. Клакоцкі | 20 |
| М. Данілюк | 20 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| А. Сёмуха | 17 |
| Джы К. | 10 |
| А. Вандрыюк | 10 |
| А. Міцкевіч | 10 |
| К. і М. Верабей | 10 |
| В. Зайка | 10 |
| М.В. | 10 |
| Ананімна | 2 |

**Прыслана безпасярэдня ў рэдакцыю**

| | |
|---|---|
| А. Чарнэцкая | ам. дал. 200 |
| З. Смаршчок | 100 |
| У. і Л. Брылеўскія | 50 |
| У. і А. Ракуць | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| В. Багдан | 50 |
| І. Сядура | 50 |
| В. Ільшчук | 50 |
| В. Шнэцька | 40 |
| Я. Крэсла | 30 |
| К. і М. Верабей | 25 |
| М. Страпко | 20 |
| Я. Юхнавец | 10 |
| Я. Каханоўская (за каляднія віншаваньня) | 20 |

## БЕЛАРУСЬ У ДАВЕДНІКАХ: НОВАЯ ІНФАРМАЦЫЯ

***THE ENCYCLOPEDIA OF DEMOCRACY.*** **Editor in Chief SEYMOUR MARTIN LIPSET. Volume 1. Congressional Quarterly Inc. Washington, D.C. 1995.**

Зьмешчаны на бачынах выданьня артыкул Янкі Запрудніка «Беларусь» знаёміць чытачоў з спэцыфікай і праблемамі сучаснага дэмакратычнага працэсу ў Беларусі. Кампазыцыйна артыкул дзеліцца на кароткія гістарычныя ўводзіны ды падразьдзелы «Праблемы пераходнага пэрыяду», «Нараджэньне палітычных партый», «Структура Ўраду і Новая Канстытуцыя» і «Дэмакратычныя пэрспэктывы».

Аўтару ўдалося падаць вычарпальна нараджэньне апазіцыйнага грамадзкага руху ў Беларусі на зломе камунізму ў канцы 80-пачатку 90-х гадоў ды яго ную трансфармацыю ў дэмакратычную апазыцыю. У артыкуле разглядаюцца асноўныя этапы разьвіцьця дэмакратыі й палітычнай сыстэмы Беларусі на працягу 1990-95 гадоў, калі Беларусь была абвешчаная незалежнай дзяржавай, сфармавала асноўныя дэмакратычныя інстытуты дзяржавы, пачала стварэньне прававаге грамадзтва й ажыцьцяўленьня рынкавых эканамічных пераўтварэньняў.

У той жа час, паводле артыкулу, дэмакратычная сыстэма ня здолела ўсталявацца ў Беларусі канчаткова й дэмакратычны рух у краіне ня здолеў выйсьці са стану апазыцыі. Разглядаюцца аб'ектыўныя і суб'ектыўныя перадумовы цяжкога шляху разьвіцьця дэмакратыі ў Беларусі. Праблема дэмакратызацыі Беларусі ў артыкуле пасьлядоўна й лягічна ўзалежненая з комплексам праблемаў нацыянальна-дзяржаўнага разьвіцьця Беларусі.

Я. Запруднік дае характарыстыку сучаснае палітычнае структуры Беларусі, сыстэму юрыдычнага рэгуляваньня дэмакратычнага і палітычнага працэсу ў краіне, ідэйную і арганізацыйную дыфэрэнцыяцыю палітычных сілаў, сацыяльна-псыхалягічны вобраз сярэднестатычнага беларускага выбаршчыка ды іншую інфармацыю. Артыкул канчаецца бібліяграфіяй літаратуры пра Беларусь у ангельскай мове.

Пэрспэктыву дэмакратыі ў Беларусі аўтар зьвязвае з прыходам да ўлады маладых пакаленьняў, ужо не абцяжараных, у адрозьненьне ад сёньняшняга дзяржаўнага й палітычнага кіраўніцтва краіны, філёзофіяй падсавецкага аўтарытарызму.

Артыкул «Беларусь» на бачынах згаданае энцыкляпэдыі несумненна спаўніць належную функцыю ў забясьпечаньні інфармацыяй пра Беларусь усіх зацікаўленых праблематыкай дэмакратызацыі краінаў былога СССР.

***BELARUS and MOLDOVA: country studies.*** **Federal Research Division. Library of Congress. Edited by Helen Fedor. 1995.**

Першую частку кнігі абыймом у 93 бачыны займае матар'ял Янкі Запрудніка і сп-ні Гэлен Фэдор «Беларусь». Адмысловыя разьдзелы публікацыі прысьвечаныя розным аспэктам гісторыі, прыроды, культуры, палітыцы, эканоміцы, міжнароднымі узаемадачыненьням Беларусі з Расеяй, Украінай, ЗША, Польшчай, краінамі Балтыкі. Аналізуецца ўнутраная палітычная сытуацыя, роля й месца Беларусі ў СНД, пытаньне прысутнасьці расейскіх войскаў на тэрыторыі Беларусі. Гэты аб'ёмны і ўнівэрсальны па зьмесьце матар'ял бадай што можна назваць галоўнай публікацыяй 1995 году пра Беларусь у ангельскай мове.

**Ю.В.**

## *«КАЛОСЬСЕ» — НОВЫ ЧАСАПІС*

У Горадні выйшаў першы нумар новага часапісу пад старым назовам — «Калосьсе». Пад такім назовам выдаваўся ў 1930-х гадох літаратурна-навуковы і грамадзкі часапіс у Вільні. Горадзенскае «Калосьсе» выдала Таварыства вольных літаратараў пры фінансавай падтрымцы з боку фонду Сораса і фонду «Бацькаўшчына». Паводле газэты «Звязда» (26.І.96), у часапіса даволі прыстойнае паліграфічнае афармленьне і цікавы зьмест.

## Дапамажыце

Шаноўныя спадары!

Дазвольце праз Вашу газэту (калі гэта магчыма) прасіць маіх суайчыньнікаў дапамагчы мне. Можа хто праявіць хрысьціянскае міласердзе да майго бядотнага стану. Аддзякаваць змагу толькі просьбай у Бога здароў'я для усіх Вас. Мне 48 гадоў. Зусім адзін. Няма сям'і. Няма бацькоў. Ад няшчаснага выпадку страціў нагу. Апэрацыю зрабілі не зусім добра. А на паўторную, у мяне сіл ужо не хопіць. Цяпер трэба добры пратэз. Неабходна для гэтае мэты сабраць каля шасьцісот даляраў. Мая ж пэнсія складае каля дваццаці трох (у пераразьміну) даляраў.

Калі знойдуцца добрыя душы ахвяраваць такія грошы, буду вельмі і вельмі удзячны. Хаця сам разумею, што такіх посьбаў у Вас шмат і усім не дапаможаш, аля спадзяюся на лепшае. Усё у руках Божых. Даруйце за пісьмо і за памылкі ў ім. Шчыра Вам жадаю усяго найлепшага.

Беларусь
г. Віцебск 210016
вул. Нова-Уланаўская д. 17
**Шведаў Міхаіл Сямёнавіч**

Ваш адрас мне падалі у БНФ «Адраджэньне».